# СЯРГЕЙ ШЫДЛОЎСКІ

## ВЫТАНЬНЕ ВЕРШНІКА

Прыцемкі у лесе пахлі даждом. На атавелай сьцежцы пасярод леса вершнік-беларусін слухау у вадзіноце жывую цішыню. Жвавыя птушачкі цьвіркалі, што тыя званочкі, цешылі сэрца чалавека. Дзень спыніу свой рух да ночы й таксама слухау, адпачывау. Аднае вада азёрная болей а болей нервавалася й брыняла барвінкою.

ж ж ж

Пасохлы трысьнёг рыпіць у халоднай твані — выклятый адлучаны ад агню — трызьніць нязбытным цяплом. Побач сябра стары — вужака сьцюдзёнакроўны — чорным скруткем бавіцца бяз руху немаведама ужо колькі часу — есьці ня хоча...

Два бервяны на беразе ляжаць, — маркотна ліжа іх вада. Боты, звыклыя утаймоуваць шалёных коней, трывала крочаць па сьлізкім мастку... Вось і сонца выйшла з хмарау на разьвітаньне, — яно нас памятае й спагадае...

Да вады сьхіліу вершнік нізка галаву дабрародную сваю й зірнуу усутыч на лапік сьвятла з вачыма зморанымі. Ад возера патыхала сьпячай цішынёю. Ноч не прынесла ані цішыні; ані цемры. Неба буяла зорамі. Зьнічкі абрываліся ціха у вусьцішнае вухканьне лесу. Сузор'і, што тыя словы, складаліся у таемныя сказы, — марна карцела вызнаць іх сэнс... Лес тхнуу зьдзекліва ружай. Пасярод ночы на сярэдзіне возера, — там, дзе холад гусьцее, — зацьвёу чарот.

ж ж ж

Будзень атуліу цела раздрузлай апраткай, — зраньня ймкэла туга. Грыбы спрасоньня талакою пацягнуліся да неба, поўнячы лес шамаценьнем сьпелай лістоты...

Абрысы дрэвау паглынае дым. Агмень сіпка шэпча старасьвецкія байкі. Вершнік ды дрома — удзячныя слухачы — баутыкаюцца у імжы, — трохі вышэй ад зямлі, акурат на узроуні асалавелых вочкау зайца-шарачка, што сядзіць аддалей асьцяро-

кліва ды усьміхаецца прыязна госьцю.

* * *

... Нэ першы гэта шлях. Шмат ужо пройдзена -- ад пачатку да скона. І гэты скончыцца... каб пачаўся новы. Вочы сталіся пазнаваць. Памяць аб забытым шчыміць сэрца. Калі ж скончыцца гэты лес?..

Хай вецер вырве роспач! Хай валошкі астудзяць памяць пал, што жывіцца кожным новым -- старым шляхам. Каб гэты заставаўся Адзіным, каб гэты заставаўся Першым, што ня ведае роспачы тупікоў.

Каб на зьмярканьні ён хаваўся за небакраем -- разам з сонцам, і выходзіў разам з сонцам раніцой -- з-за небакраю. Зьлітуйся, Божа... Дай крылы.

* * *

Ён прачнуўся пад зялёнай папараацьцю. Вецер зашапацеў краем і зьнік у далечыні -- ды раптам вярнуўся, -- крануў шчаку сьцюдзёнай, крэпкай далоняй. Прывіды й турботы счэзьлі пад дзённым сьвятлом.

Шлях чакае!

* * *

Гасьцінец -- у гару, -- хутка ўжо горны замак мой. Вунь -- над небакраем яго белыя вежы лу... оць.

Там бруяць сьцюдзёныя крыніцы, гояць стомленыя ногі зборных сыноў. Зыкі дуды атуляць гонкія вежы й сягаюць за рэхам. Белыя муры -- здалёк відаць.

Там счакаліся Вершніка Белага.

* * *

-- Зірніце, -- сонца й дождж. Зірніце, -- вунь Белы Вершнік лучыць да нас на кані, вядзе за сабою вясёлку.

Ворагі й недабразычліўцы нікнуць пад позіркам яго шэрых вачэй. Гэтыя вочы бачаць праўду, гэтыя вочы ня ведаюць паняверкі. Ліха й злыбеды разьбівае ён сваімі грудзямі. Гэтыя грудзі дыхаюць сонечным сьвятлом.

То Вершнік Белы -- князь Вясна! Наш валадар Вярнуўся!

# ЦЯГНІКІ Й НЕБА

Цягнік разарваў працягненьне часу, -- разорай паміж учора й заўтра лёг рэйкавы шлях. І мы пасунуліся насустрач ночы. Усё хутчэй -- хвіліну за хвілінай, метар за метрам -- паглынае жалезны сапітэр, а уверсе -- бясконцасьць і вечнасьць.

Дождж за бруднымі шыбамі -- немы й ня мае паху. Потныя целы спадарожнікаў хаваюць пустэчу вачэй у цяжкі сон, -- кожны, хто прыходзіць сюды, пакідае душу пад небам.

Бездакорная роўнасьць рэек, безупынны цокат жалезных колаў... Цягнік -- вышталцоная прылада дзеля мазахізма -- вязьніца на колах. Апошняя надзея -- стоп-кран...

Вакзалы падобныя адзін на адное, як можа быць падобны чалавек на самаго сябе... Роспачна гойдаюцца шкляныя дзьверы. Электронны гадзіньнік адлічвае зялёныя хвіліны...

Чужое месца сустракае калатнечай цыганскага табару. Сьцюдзёная слота віруе над мармуровымі сходамі. Чорныя калюжыны зеўраць безданьню. Мінакі не прамінаюць штурхануць цябе локцем. У шапіках белай сьмерцю акалявае марозіва. Нэрвы хворага трымцяць -- прагнуць цішыні й прытулку. Годзе!

Дзе тут выйсьці наверх! Годзе крэмсаць бясконцасьць кілямэтрамі. Калі ня лётаць мне, -- дык хадзіць па вадзе... Мары -- не дзеля марнага чыну. Ад досьведа Вешата тхне казённым смуродам цягнікоў: неба -- адзінае над усімі й над усім... Ня тузайце мяне за вопратку, -- хачу, нарэшце, узьляцець. Зробім гэта разам, -- і цягнікі сьпыняцца.

* * *

Старыя кажуць, што зь цягнікамі ў нас сталая варажнеча. Пачалося ж усё, калі на хрыбтах нашых дзядоў, на касьцях іх прыцягнулі чужынцы да нас рэйкі й пусьцілі ў пушчу смуродную пачвару. Яна распужала зьвяроў і распачала вазіць дзядоў у тлумную гарачыню габрэйскіх месцаў, а то й зусім на край сьвету -- у маскалі. З маскалёў жа вельмі яны басату розную, вашапрудаў... Не стрывалі аднойчы продкі й распачалі вялікую вайну зь цягнікамі, -- шмат рэек было пакарожана, цьма цягнікоў скачалі пад адхонамі... Такія вось дзіўныя показкі распавядаюць старыя.

## ВЯСНА 1216

У красавіку 1216 года па нараджэньню Хрыста на крывіцкадрыгвіцкай прасторы — ад Балтыкі да Дняпра, між Прыпяцьцю й Дзьвіною — было сьнежна й завейна.

Вясна забавілася недзе у дарозе. Дарогі ж ператварыліся у сьняговыя рэкі й мінулі разьліцца па навакольных вёсках, — бухматыя хвалі атачылі хаты тубыльцау.

Тубыльцы ж бліжэй туліліся да свойскіх цяпельцау. Смуродлівы курадым уядауся ім у косьці, мазгі, — спарадзяу трызьненьні на яве, трызьненьні аб леце.

Аб леце...

Улетку багата лебяды й дзьмухаўцоу. Улетку на стрэхах паглядна зялянее мох. Далей ад ліха хавающа дарогі у буяньне мурожных дзірваноу. На прызбах дзяды сівыя чыняць казань аб рацэ Дунай, дзе рыбна было й цёпла... Уздыхаюць кабеты: "Навошта зьвялі іх продкі з раю зямнога". Ківаюць згодна слухачы.

Ды ня усе дзядоу слухаюць. А калі й слухаюць неслухі гэтыя, то вярзуць непатрэбнае, — карціць ім ведаць неадменна — куды вялі іх продкі, а галоунае, — чаму спыніліся, чаму не пайшлі далей. І касавурацца на лес — семя воучае — не сядзіцца ім па хатах, — гэта яны не даюць зусім атавець сьцежкам. На злом галавы сваёй мераюцца гартам з зубрам, імпэтам зь ветрам. Даходныя, — сьвярбіць ім спасьцігнуць, адкуль усходзіць і куды садзіцца сонца. Ані лясуна, ані вадзяніка не баяцца пракуды...

Гэтак трызьняць на яве тубыльцы, покуль тыя, каму не па нораву цяпло курадыма, гойсаюць па пушчах, — мінуць напярэймы вясьне...

То лепшыя людзі. Няшмат у іх грыўняў, але багатыя яны сьвітанкамі ды вёснамі. Няма прыдатку ім на палёх: конёу замораць да змогі, касу сатруць ушчэнт. Бо сэрцы гарачыя прагнуць ня справы, а чыну, — вочы узораны у далеч.

Аднае палёгка ім у пушчы, калі сам-насам з зубрам: дыхт на гарт, імпэт на апантанасьць. Меньшае у лесе зубрау, меньшае й спавесьнікау Вясны. Мала іх пад сонцам, ды яны разам з сонцам. Сьвята зьнічак — Купальле — гэта іх сьвята.

Пад зорным дажджом на крылах вогненных мінуць яны да неба.

Папарацъ-кветка — пасаг валошказорым, папарацъ-кветка — сьцяг вояў маладосьці. Войска 'звязь сьцяга — быдлячы статак. Хоць мала спавесьнікаў Вясны, ды папарацъ-кветак — яшчэ меней...

На дзызе паловы мерана жыцьцё іх Купальлямі. Напачатку: кожнае Купальле — новая прыступка да неба: ад Купальля — да неба, ад Купальля — да неба лятуць яны.

Ды цяжэюць ногі: цяжка гоцаць вышэй галавы — ад долу да Купальля, ад долу да Купальля... Хто ведае, дзе расьце яна? Гэй!

... Калі сыходзіў сьнег, вясна азвалася: Полацак! І неба высокае дыхнула вольна: Полацак! Гэтым рэхам гаі ды дубровы поўняцца: Полацак!

Зварушыліся пушчы. Крывіцкія апірышчы на Дзьвіне, Дняпры ды Нёмне памкнулі да Полацка.

Уськіпелі дрыгвы палескія — дрыгвічы ды радзімічы рушылі на покліч полацкі.

Полацак — апірышча чынных ды дабрародных — склікае Пагоню на палі, на палі — зь ветрам, зь ветрам. Полацак — першы сярод роўных — ён не забірае, ён дае — шанец. Шанец спазнаць смак жыцьця й сьмерці, шанец зьведаць кошт шчасьця. Зь яго амбітных вежаў — далёка відаць. Тут будучыня засылала сваю амбасаду. Дзе ж навучыцца лётаць падлёткам, як ня тут — з муроў высокіх Полацка рынуцца долу — у бездань пралескавую, — і ўзьняцца на крылах блакіта, — разам зь ветрам.

Ад Сафіі — папарацъ-кветкі полацкай паводзе іх кароль Вальдэмар — князь Уладзімер на суперніка годнага: Рубон! Грудзямі штурхануцца з Эўропай, дакрануцца да яе гарачых, зіхоткіх латаў: Рубон!

... Ваўкі зьбіраліся у зграі — голад маладзіў ногі. Цікаўнасьць гнала наперад, — дагэтуль ніколі яшчэ ня бачылі шэрыя браты столькі людзей. Людзі імпанавалі й адначасова пужалі ваўкоў, — ад людскога збоя тхала конскім потам і дымам.

Вось так і рушылі яны разам пад Полацак — два войскі: ваўчынае й людское — на вялікі фэст амбітнасьці чалавечай

ды драпежнасьці воучай. Гэта было больш, чымсьці сьвята -- гэта бну Конадзень сьвята.

А ноччу успыхвалі цяпельцы ды воучыя вочы. Ваукі утароплена пілі поуні сьвятло ды сьцягвaліся гуртам -- кожны аб сваёй адзіноце.

Кароткі воучы век...

Людзі ж рагаталі навыперадкі -- насуперак цемры й сну, насуперак вухканьням і выцьцю леса, -- яны адчувалі: прысьпеу іх час.

# КАСТУСЬ ГАМАНЕЦ

## СЬМЯРОТНАЕ ПАКАРАНЬНЕ

— Зараз яе павядуць, — сказаў чалавек, які стаяў побач са мною. Мы знаходзіліся ў велізарнай зале, падобнай да заводскага цэху. Пасярод залы стаяў вялікі пукаты металёвы агрэгат. Ён нагадваў катлы, у якіх гатуюць ежу ў сталоўках. На пукатай сьцяне катла я ўбачыў дзьверы. Да гэтых дзьвярэй з падлогі вялі жалезныя драбіны.

Мы стаялі мэтраў за 30 ад катла. Бліжэй падыйсьці было немагчыма. Шлях перакрывала мэталёвая агародка. За ёй стаяў жаўнер.

— Зараз! Зараз яе павядуць, — паўтарыў мой сусед.

Я паглядзеў на яго. Ён быў тоўсты. Вочы ліхаманкава blі-шчэлі. Я адвярнуўся.

Людзей было ня вельмі шмат. Я думаў, будзе болей. Добра, што няшмат...

Час ад часу рабілася млосна. Сэрца тахкала недзе ў горле. Я хапаўся рукамі за агародку.

У сьцяне "цэха" адчыніліся дзьверы. Натоўп загаманіў. Зь дзьвярэй выйшла яна. Рукі зьвязаныя за сьпінаю. Уперадзе й ззаду — жаўнеры. Праходзячы, разгубленымі, напалоханымі вачмі яна прабеглася па натоўпе. Мяне не заўважыла. Я чамусьці баяўся, што яна мяне заўважыць. Чаму?..

Яе павялі ўгору па др[illegible]х. Жаўнер сьпераду, жаўнер ззаду. Бачна было, як няўпэўнена яна ставіць ногі на вузкія мэталёвыя прыступкі. Аўтаматычна адчыніліся дзьверы ў корпусе катла. Першы ўнутр зайшоў жаўнер. Потым — яна. Другі жаўнер застаўся стаяць на прыступках. Праз хвіліну першы жаўнер выйшаў. Дзьверы зачыніліся. Яна засталася там. Жаўнеры сышлі па драбінах.

Тым часам на сярэдзіну залы выйшла група людзей. Некалькі чалавек у вайсковым адзеньні. Некалькі ў цывільным. І адзін у доўгай шэрай апранасе з капюшонам. Капюшон накінуты на галаву.

Побач з катлом стаяў нейкі прыбор. Ён быў умацаваны ў цэментовую падлогу залы. Гэта, напэўна, быў пульт кіраваньня. На панэлі пульта знаходзілася адна кнопка й адна лямпачка. Усё.

Група людзей, якая выйшла зь дзьвярэй "цэха", паўколам стала вакол пульта. Чалавек у капюшоне пачаў нешта прамаўляць. Але ягоны голас біўся аб сьцены залы, і ніхто нічога ня мог зразумець.

Нарэшце прамова скончылася. Чалавек у капюшоне падышоў да пульта й націснуў кнопку. Запалілася лямпачка. Кацёл загуў.

Я трымаўся рукамі за агароджу. Вочы спыніліся. Усё спынілася. Так я стаяў усе 15 хвілінаў, пакуль гул ня скончыўся й лямпачка ня згасла. Натоўп пачаў разыходзіцца.

Я разам з усімі выйшаў з залы ў фае. Частка людзей пайшла ў шатню, частка ў бар. Я стаў у маленькім закутку, дзе да сьцяны была прымацаваная шыльда "Мейсца для паленьня". Я душыў свой крык, але ён ірваўся зь лёгкіх, з горла, з вачэй... Мне здавалася, што гэта яе крык. Хаця праз тоўстыя металёвыя сьценкі катла ніякага крыку не пачуеш. Я ўявіў, як яна, маленькая, бялявенькая, заходзіць туды, унутр, сядае ў гэтае... пякельнае крэсла (я ведаю, там ёсьць крэсла). Яе разгубленыя вочы, дрыжачыя рукі. Дрыжачыя вусны. Жаўнер прымацоўвае яе да крэсла, каб не магла падняцца. Выходзіць. Тэмпература павышаецца. Яна будзе няўхільна павышацца роўна 15 хвілінаў. І праз 15 хвілінаў у крэсьле не застанецца нічога. Нічога!

Я йду ў бар.

Стойка, столікі. Шмат людзей. Паўзмрок. Да мяне падыходзіць чалавек. Юнак.

— Ты, слухай, ідзі адсюль!

— Што? — не разумею я.

— Няма мейсцаў, — юнак глядзіць нахабна й пагрозьліва.

— Вось жа, ёсьць, — няўпэўнена паказваю я на пустыя крэслы.

— Для цябе няма.

— Мне проста неабходна выпіць, — я прыніжана усьміхаюся. — Разумееце?

— Мы усё ведаем і пра цябе, і пра яе, — кажа юнак. —

Мы не дазволім тут знаходзіцца такім, як ты.

Я выходжу з бара. Прымішаная усьмешка застаецца на маім твары. Толькі жудаснымі намаганьнямі мне удаецца яе сьцерці.

Адчуваньне віны... Што зь ім рабіць? Я супакойваю сябе, кажу, што вінаваціцца неразумна. Але адчуваньне прыходзіць зноў і зноў.

* * *

Назаўтра мне захочацца плакаць, але я не змагу. Я ужо даўно не умею плакаць.

Я яшчэ доўга буду жыць у галечы. Часта я буду спрабаваць намаляваць яе твар. Але заўсёды ён будзе атрымлівацца перакрыўлены грымасай страху й болю. І я кіну гэты занятак...

1988

# ВАЛЯНЬЦІНА АКСАК

## ЛІТАСЬЦЬ

Маё няшчасьце сталася
Тваёй
Сьвятою
Літасьцю:
над аналоем старасьта
вянец,
як птушку,
выпусьціў...

## ГРАМНІЧНАЕ

Сьвечка зусім растапілася,
выліўся воск у падспод кандэлябры,
галасам роспачы з кліраса
полымя творыць сусьвет непаглядным.

На ацалелай кнатовіны —
высілкі, вартыя людской пашаны, —
цень, як жыцьцё на саломінцы,
вогнік ратуе.

Нязгасным —
Асанна!

## ПАНІХІДА

Сорак дзён.
Душа адляцела.
Значыць,
словам нязграбным
ужо

не

пераніцца.

Срэбнавокі анёл
да божай пасьцелі
лепіць лапік ядвабу --
вынечыць
зьмярканьне

на

раніцу...

НАБЛІЖЭНЬНЕ

Іду.
Ужо нясьпешна.
Баюся,
што валошку у прыдарожным пылу,
як подбегам,
то й не заўважу.
Ці на галоўку маладзёна-дзьмухаўца
ступлю,
не ўладжуся з рытмічнасьцю дыханьня.
А то ўзаб'ецца
з каляіны хліпкай
якісь пісклёнак мне пад сьлед,
падэшва шорсткая вібрацый сэрцайка яго
ня ўчуе.
І гэтай страты, мабыць,
будзе досыць,
каб у хістаньні шаляў
паўнасьці прыдбаць.

* * *

Вячорны час.
Шасьціць ачахлым лісьцем
засьпетая марозам без пары
акацыя,
ці то шукае вы ьця

вятрыска,
замысьліўшы із горада прарыў.

Не ухойдаў днём
напругу на асклізлых сьценах,
як потырчкі ішоў цераз дамы,
куляўся
цераз коміны мартэнаў,
пагардліва ня зважнўшы на дым.
Не раздрабніў мацунак на мільярды
лагодных калідорных скразьнякоў...

Вось так і я:
ня крою з мілі ярды,
Птушыны Шлях
каб шнў --
бы ў жылах
кроў.

# ПЯТРО ЛАМАН

* * *

Быццам новая зорка,
Нібы шаравая маланка,
Прыканцы калідора
Пульсуе пылінка сьвятла.
Б'ецца горкая думка
Дыміць, як ліхая палонка, —
Можа гэта і добра,
Што доля сюды прывяла?

## БЛУКАНЬНЕ Ў САКАВІКУ

Дагарэла... Адцьвіло... Засьнежыла...
Зноў онуюцца страчаныя дні.
Ціха песьняй матчынай суцешыла...
Божа, можа ўсё гэта прысьніў?

Знак-агеньчык заціхае моракам
Сьнег і сьнег... На веях у вачах.
Напісаны завірухай зморанай
Знак праклёну па маіх плячах.

Не вярнуцца... Пуцявіна страчана...
Дзень і ноч у змрок па цаліку...
Тваё сэрца сьнегіром гарачым
Апячэ асьлеплую руку.

8 сакавіка 1988

* * *

Сыплецца пясок.
Вонкі рвецца пульс.
Вецер б'е суздром,

Выдзірае вочы.

Чорны паясок
На вачах матуль.
Ім п..ведыром
Служыць плач сірочы.

Велічны віхор
Рве рахункі крыўд.
Вецер апалеў —
Зацінае вусны.

Жудасны прастор
Далечы раскрыў.
Паглынае сьлед,
Растрасае вусьціш.

Залаты пясок
Вісельняў і куль...
Міражы быцьця
Засланілі сонца...

Чорны паясок
На вачах матуль —
Гэта наш працяг?
Нашая бясконцасьць?..

1990

* * *

Зьвілістая дарога
Зноў зарастае змрокам.
Топчацца ля парога
Душа з адабраным зрокам.

* * *

Наш лёс сірочы
Хто нам сурочыць?

Сьмяецца ветах,
Сьмяемося мы.
Ты, як валошка
Забытай песьні,
Што зацьвіла
Між плакун-травы.

* * *

Сонейка маё у цямноцьці,
Зь цела вырвецца душа.
Рукі цёплыя астудзіць
Часу чорная імша.

Нашы сьмешныя жаданьні —
Нашай мудрасьці працяг, —
Раскрыжуюць нас у прорве
Залатога забыцьця.

* * *

У сонным бары
Зязюля кувае.
Жыцьцё дагарыць,
Як дзень дагарае.

Сатканая борам
І нёманскай плыньню
Журлівая песьня
Як хваля нахлыне.

Імгненьне і вечнасьць
Мой кут і бясконцасьць
Яднае сабой
Вечаровае сонца.

З прадоньня стагодзьдзяў
З другога сусьвету

Напеў...
Невядомым духам сагрэты.

І мудрасьць і юнасьць
У росным змярканьні
І нікнуць турботы,
Як перад сканаяньнем.

Журба з дабрынёю
Напеў спарадзілі
На роднай зямлі
Тугу па Радзіме.

# СЛАВАМІР АДАМОВІЧ

## ГОРАД, ЯКІ ЗАЎСЁДЫ З ТАБОЙ

э о э

Ніхто не пытаўся ў цябе, ці хочаш ты зьявіцца на сьвет. Гэта сталася без тваё волі.

Ніхто не прапаноўваў табе выбраць нацыянальнасьць — і вось ты мусіш несьці крыж беларускасьці, пад цяжарам якога ў цябе згінаюцца калені й гудам гудзіць хрыбет.

Нарэшце, так сталася, што жывеш ты не ў Парыжы й ня ў Гэльсінках, не ў Бэрліне й нават не ў Варшаве — ты жывеш у Менску. Гэта сталіца твае Беларусі.

Якраз пра гэты горад і пра гэтую краіну беларус Сяргей Дубавец напісаў літаратурную рэч пад назвай "Тут". І ты цалкам згодны зь ягонымі думкамі. Ты разумееш усю ягоную іронію, усе ягоныя сарказмы. Бо, перафразуючы другога беларуса, паэта Анатоля Сыса, у гэтай краіне ня маеш ты волі. Бо гэта тут "прафэсійныя беларусы" вучаць цябе, як трэба гаварыць па-беларуску; тут ты ходзіш па вуліцах імя кнорыных, мясьніковых, апанскіх, ландараў, — па вуліцах, названых у гонар ворагаў Беларускага Духу; гэта тут цябе называюць "фашиствующим молодчиком" за вольніцу думак; тут за тваё беларускае слова твае ж суайчыньнікі абвінавачваюць цябе ў нацыяналізьме, разумеючы яго як самы вялікі сярод людзкіх грахоў; гэта тут! тут! тут! ты штодня загадзя ставіш на пройгрыш, бо ты, вар'ят, хочаш быць вольным Беларусам і толькі ў Беларушчыне бачыш нармальнасьць свайго йснаваньня!..

І вось, калі ўжо нутраной сілы волі не хапае, каб нададей утрымліваць вакол сябе энэргаполе беларускасьці, ты сыходзіш упрочкі. Дакладней, ты зьяжджаеш ранішнім "дызэлем" у... Вільню.

Усяго якіх сто семдзесят кілямэтраў на захад ад Менску, праз Маладзечна, Смургонь, Гудагай — і ты ў іншай краіне, пад

іншым небам, сярод іншых людзей. Ты ловіш сябе на думцы, што ўдзячны летувісам за іхнае нармальнае ўспрыманьне цябе як беларуса.

Вільня — гэта тваё, блізка та..е й у самім табе ёсьць. Вільня ў тваіх генах, пра яе данесьлі табе легенды продкаў. Вільня Гедыміна, Вільня Вітаўта, Вільня Каліноўскага, Вільня "Нашай Нівы" пачатку стагодзьдзя. Твая Вільня.

Першы дзень, пакінуўшы юрыдычную сталіцу Беларусі там, на ўсходзе, ты ходзіш па Вільні як ейны добры сусед, які проста даўна не паказваўся на вочы. На другі дзень пад Гострай Брамай ты праходзіш як свой, адчуваючы сябе наскрозь віленчуком. Ты любіш гэтых упартых летувісаў, гэтых кемлівых балтычыкаў, не без высілкаў каторых твая Вільня засталася тваім духоўным прыстанкам, беларус зь Менску.

А што, каб Вільня ўсё ж вярнула сабе колішні статус галоўнага гораду ВКЛ? Што, калі б ня Менск, а яна, Вільня, была сталіцай яшчэ нядаўна савецкай Беларусі? Што зрабілі б тады твае суайчыньнікі з касьцёлам Ганны? З гарой Гедыміна (Замкавай)? З могілкамі Роса? Гару, напэўна, зраўнялі б, а могілкі перакапалі, як перакапалі старыя клады ў Лідзе.

Памятаеш студзень 91-га? Ты памятаеш: па бруках Вільні грукоча савецкая бранятэхніка, захоплена тэле..ежа, забітыя, кроў, барыкады вакол парляманту Летувы, вялікі гнеў маленькай краіны.

Тымі "гара..ымі" днямі студзеня 91-га ты бачыў барыкадную Вільню, ты чуў пульсацыю ейных артэрыяў-вуліц. Ты быў гатовы тады, як многія з твайго пакаленьня, узяць у рукі зброю, стаць добраахвотным абаронцам свабоды Летувы, вольнага духу віленскіх кварталаў.

Здаецца, гэта не было бравадай з твайго боку?

Памятаеш, ты памятаеш: ноч, вогнішча, мала сьнегу й лядны мароз (бо студзень). Вакол агнёў — людзі, маладыя й сталага веку. Ніхто ня йдзе спаць, няма як спаць. Павесілі экран — круцяць якісьці с..вецкі фільм пра мушкецёраў. Увесь час падвозяць чай і какаву. Маладыя летувісы (ён і яна) частуюць цябе гарачымі бондачкамі. Пытаеш, хто забясьпечвае барыкады гарачым харчам. Кажуць, што правінцыя: калгасныя й саўгасныя сталоўкі. Па чарзе.

Кавяранька побач працавала да паўночы. Там ты выпіў філіжанку кавы за 5 рэ.

Памятаеш, ты памятаеш: малады летувіс пасьля начной перакускі прапанаваў табе цыгарэту. Вы палілі, млога й усмак. І гаварылі пра Летуву, пра Беларусь, пра гісторыю вашых народаў, наколькі вы яе ведалі, пра вашу адзінародную маці — дзяржаву ВКЛ.

Малады летувіс ня спаў ужо каторую ноч, меў стомлены выгляд, і ягоная таварышка (як маці, сястра, каханка, як Радзіма-Летува) адпраўляла хлапца адпачыць, абяцаючы падзяжурыць за яго каля вогнішча.

Ці ня тымі трывожнымі начамі памяць пра Вільню, перададзеная табе продкамі, перакінулася ў актыўныя працэсы думаньня тваёй галавы? Ці не тады, каля вогнішчаў, у якіх згаралі цэлы маладых ліпаў, зрэзаных на віленскіх алеях, для цябе перастаў існаваць Вільнюс як горад вачыма Масквы, і паўстала Вільня як горад двух народаў, што запачаткавалі ў сівой мінуўшчыне магутную дзяржаву крывічоў і летувісаў?

Ведаю, ты дасі сьцьвярджальны адказ.

Ты любіш Вільню, інакш не ўцякаў бы пад яе восеньскае неба. І яна прыймае цябе ў сваё цёплае улоньне, у якім ты пазбываешся неймгненьне ад псыхалягічнага дыскамфорту, набытага ў юрыдычнай сталіцы. Вяртаньне ў Вільню -- гэта вяртаньне з міфу рэальнасьці беларускай мэтраполіі ў праекіян беларускага жыцьця па-за сынтэтыкай небеларушчыны. Пэрманэнтнае вяртаньне ў Вільню (зыход упрочкі, уцёкі) — гэта як адшуканьне адзінай, табе адпаведнай жанчыны, за адно толькі йснаваньне якой ты будзеш удзячны ёй давеку.

Але, уцякач, ці не насьцярожыла цябе тваё апошняе прыйсьце пад Гострую Браму? Ці не адчуваеш ты, як пастражала Вільня з часу пасьля студзеня 91-га?

Гэтым разам у кавяраньцы ты ўзяў філіжанку кавы за дваццаць талёнаў (пераходная грашовая адзінка ад савецкага рубля да літа). Задыміў цыгарэтай за дзесяць. Набыў газэту "Эхо Литвы" за чатыры талёны й дзьве маркі з выявай летувіскай "Пагоні", што каштавала табе яшчэ два талёны.

Ты адчуваеш, што рэальнасьць спрабуе дыскрэдытаваць ідэю Вільні, твайго духоўнага пр..танку? Ты захістаўся? Ах, не,

гэта восеньні вецер Балтыкі штурхануў цябе ў плячо. Ты схамянуўся кінуў у сьметніцу недапалак, схаваў пад паху "Эхо Литвы" і пайшоў па бруках і асфальтах знаёмага горада. Як свой. Як па сваёй зямлі. Як пад сваім небам.

Ты пайшоў бяз пэўнай мэты, так, абы йсьці. І прыйшоў да знаёмых, што пакінулі мэтраполію, каб вярнуцца ў Вільню й пачаць у ёй беларускую справу амаль зь нічога. Іх дзесятак-другі чалавек — б эрусаў, якія спрабуюць адрадзіць на Віленшчыне беларускую школу й беларускую гімназію, якія знайшлі моцы, каб адкрыць пры Віленскім падагагічным унівэрсытэце катэдру беларусістыкі, арганізаваць выданьне адноўленай "Нашай Нівы" і работу на летувіскіх радыё й тэлевізіі, бо летувісы не шкадуюць эфірнага часу: бярыце, кажуць яны, рабіце свае нацыянальныя перадачы, калі ў вас хопіць змогі. А змогі якраз і не хапае, бо не хапае работнікаў. Доўгія гады йснаваньня пад савецкім рэжымам адкінулі нацыю нават не ў дапашаніўскі, а ў даБагушэвічаў пэрыяд, г.зн. да самых пачаткаў нараджэньня беларускай незалежніцкай думкі. І сёньня беларусы Віленшчыны ня маюць ад ўраду мэтраполіі ніякай матэрыяльнай дапамогі, хіба што час ад часу пустыя абяцанкі...

А Вільня тым часам вабіць упэўненасьцю ў будучыні, у сёньняшнім дні. Адчуваньне такога пэўнага стану данесьлі зь мінулага кантрафорсы гарадзкіх муроў, унебапамкнёныя гатычныя сьпічакі касьцёлу сьвятой Ганны, вуліцы й завулкі, па якіх калісьці вандравалі рэдакцыі першых беларускіх газэт "Наша Доля" і "Наша Ніва"...

Твая настальгія па Вільні — настальгія па нармальным беларускім жыцьці, у якім тваю беларускасьць пацьвярджалі б мільёны тваіх суайчыньнікаў, пацьвярджалі б уласнай б ларускасьцю.

Твая настальгія па Вільні — настальгія па беларускім горадзе, настальгія па беларускай будучыні.

Нехта сышоў упрочк назаўсёды, нехта застаўся ў Вільні часова, а ты мусіш заўтра вярнуцца назад. Ты зноў з надзеяй, зноў ты верыш, зноў любіш неба, як любяць яго крыжы Віленскіх касьцёлаў. Таму вяртайся.

Беларуская сталіца сустрэне цябе знаёмым "русским говорком с вкраплениями этнографического элемента", у прывакзаль-

ным шапіку ты купіш "Европейское время", а вечарам табе затэлефануе разьвядзёнка й з таемнай надзеяй на сваё, скажа: "Пойдём в кино".

Вільня — горад, які заўсёды з табой. Бо ты Беларус.

Менск--Вільня--Менск,
лістапад/сьнежань 1992 году.

## У ХОЛАДЗЕ МАРСЬЦЕ

Калі ты прыйдзеш, я буду на сконе. Ты знойдзеш мяне расьпятым, згвалтаваным, акрываўленым на ложку самотнага тумарніка. Я буду ім, ужо гатовым, каб легчы на жарало тваёй гарматы. Я буду гатовым для ахвярнага трохкутніка тваёй Волі.

Многа прайшло гадоў, ты не прыходзіла й былі мае сілы напуста. Ах, колькі сілаў на прэч і без усходаў! І як балюча, і гібельна, і роспачна, калі ты дождж і мусіш праліваццa на камянёвую пустэльню, на якой, ведаеш, ніколі не расквітнее зёлка, ня ўскочыць нават халодны цурбалка-хвошч, нават прымітыўны лішайнік, а тым больш — выкшталцоны ядловец.

Дождж на камень, камень можна стачыць упартай кропляй, але што, калі пад каменем другі, халодны й яшчэ большы?

Але ты не прыходзіла й я быў самотны. Штовечар зьяўляліся начніцы, каб запаліць мне сьвечку, а ўраньні выцікала з прасторы самая найсалодшая-салодкая — Сьмерць — і гасіла прывялее палымцо. Толькі кропля празрыстага воску заставалася на прасьціradle, працякала яго, прасмыкала стары матрац, працікала падлогу й зьнікала ў галактычных разорах.

Ты не прыходзіла й не было каму сарваць дасьпелы плод, што вырастаў разам зь яблыняй. Калі пад ейныя карані зьлівалі багно цывілізацый, ён мусіў піць атруту разам з дрэвам; калі дрэва чаўрэла ад засухі, вянуў і плод.

Ах, мундарэ! Твае каштанавыя пляды спажываў я не дарма — я навучыўся Вытрывааласьці й Волі. Але ж чаму так доўга не прыходзіла Яна. Мне не хапала ейнае Маты.

Чуеш, прыходзь! Ты знойдзеш мяне распалавіненым, мае зярняты — слабымі. Прыходзь і злучы палавінкі канц... й пачатку,

пасадзі прысох-зёран ва улоньне сакавітай арганікі й ты убачыш, як выпрастаецца мой хрыбет, як новыя пачуцьці зашморгнуць пельку на горле плоці, як спрытна выплюне мой карабін сьвінцовую кулю жарсьці. Энэргія адлячы вырве з наседжаных месцаў задрамалыя пазванкі й Юпітэр сыйдзе з арбіты.

Настане парыяд спакою й за гэты час пражывуць сваё тысячы сьветаў.

Прыйдзі й вазьмі мяне, як зямля бярэ дождж.

ЛЮДКА СІЛЬНОВА

## "... І АНІЯК НЕ МАГУ ПРАЧНУЦЦА", або НОВАЯ ПЭДАГОГІКА

### эцюд

У вас ніколі не было адчуваньня, што вашыя дзеці — ня вашыя? І ня ў сэнсе, што жонка вам з кімсьці здрадзіла ці ў радзільным доме падмянілі... Гэтыя варыянты я ськідваю з дысплэя адразу.

А вось калі нешта блакітнавокае й кірпатае, да болю знаёмае, да нудоты роднае, з натапыранымі ляпатарамі-вушамі — "ага! гэта ты, дачушка!" — у вадзін цудоўны дзень падсядае да вас і гаворыць, націскаючы пры гэтым на усялякія кнопкі:

— Для мяне наш дом — гэта ня дом нумар адзін, а дом нумар чатыры...

Ну як? Уявіце сабе мой твар... Зразумелі цяпер, аб чым я?.. Во-во! Яно самае. Японцы яшчэ раней за імі гэта прыкмецілі. Яны іх называюць "прыхадні з будучыні".

— А дзе ж твае іншыя дамы? — ціха, баючыся выпадковым рухам ці жэстам сапсаваць "кантакт", пытаюся я ў яе.

— Ну... Не магу сказаць. Але я так адчуваю, разумееш?

А як жа не? Ёй пра усё гаварыць не дазволена: касьмічная тайна...

Дарэчы, пра "усё".

— Мамачка, мне часам здаецца, што я — гэта усё, усё на сьвеце, а мяне самой няма... А потым гэта праходзіць.

Ня слаба?

Кармлю малую звычайным зямным сьняданкам і думаю, гледзячы на яе: "У якія бездані гэта усё ўлятае?.." Чытала, што маці Крышны зазірнула аднойчы ў рот свайму дзіцяці — і убачыла там Увесь Сусьвет...

— Мне здаецца, што я не жыву, а сплю. І аніяк не магу прачнуцца...

Прачнешся! Цёмна яшчэ. Расьці, дачушка! Цябе чакаюць вя-

лікія подзьвігі... А мо, перакантуемся на нашай плянэце — і далей?..

— Я не такім раней уяўляла сабе жыцьцё.

— Калі "раней"? Да свайго нараджэньня? — асьцярожна закранаю сакрэтную тэму я.

— Ня ведаю, але — раней... Такое жыцьцё мне не падабаецца.

Далібог, як падрасьце, зьедзе...

— Я чараўніца, — кажа.

— З падрапаным носам, — удакладняю, сьмеючыся, я.

— Чараўніц таксама часам б'юць — за невыносную іх цікаўнасьць.

Ах ты, мая чараўніца-вояі..

І вось аднойчы, адыходзячы спаць у свой дзіцячы пакойчык, яна сказала мне замест "добрай ночы!" нешта зусім адваротнае. І вельмі урачыста:

— Бывай, прыхадзень!

— Хіба я прыхадзень?

— Ты прыхадзень!

— А ты ведаеш, хто такія прыхадні?

— Ведаю, гэта іншапляньэтнікі. Яны прылятаюць на Зямлю... Бывай, прыхадзень! — засьмяялася яна.

І абняўшы, нечакана моцна мяне пацалавала. "Гэта абрад у іх такі. Перадачы інфармацыі..." — пасьпела падумаць я.

Цяпер "прыхадзень" — я, а не яна... А можа — і яна, і я?.. Які жах! Як цудоўна!

І ужо засынаючы, яна прамармытала мне нейкі касьмічны верш, зь якога я улавіла толькі:

... ты — сьцюжа,
я — твая сьняжынка!

На экране вялікага Сусьветнага Кампутара адвольна мітусіліся сьняжынкі...

# АЛЕСЬ АРКУШ

## ЁН ПРЫЙДЗЕ Й ЗАЎТРА

Ён прыходзіць да мяне штодня. З-за будзённай калатнечы й маёй штохвіліннай занятасьці я зрэдку зьвяртаю на яго ўвагу. Яшчэ радзей я зь ім размаўляю. Ён ніколі не адказвае на мае пытаньні. Дзіўна маўчыць, нібыта сілячыся штосьці сказаць вачыма. Ягоная містычнасьць мяне раздражняе. Я ня ведаю, хто Ён.

Нашыя нячастыя размовы нагадваюць аднабаковы роспыт. Яго цікавіць усё, што тычыцца мяне й маіх спраў. Часам узьнікае ўражаньне, што Ён правакуе мяне аб нечым прагаварыцца. Я асабліва не патураю ягонай празьмернай цікаўнасьці, але, бывае, згаджаюся на якісь дзесятак пытаньняў. Пытаньні Ён, здаецца, рыхтуе загадзя. Гаворыць нетаропка, без хваляваньня.

Нават калі я й згаджаюся на чарговае "інтэрв'ю", то ўсё адно да сваіх адказаў стаўлюся несур'ёзна -- часам нясу несусьветную лухту, знарок зьдзекваючыся над суразмоўцам. Ня ведаю, адчувае Ён мае зьдзекі, ці, можа, успрымае ўсё за чыстую манэту. Ва ўсякім разе Ён ніколі відочна не крыўдаваў і не спыняў свайго пунктуальнага роспыту па ўласным жаданьні.

Хутка мне надакучыла над ім зьдзеквацца. Калі б Ён хоць неяк рэагаваў на мае зьдзекі, я напэўна б іх доўжыў. А то... Праўда, цалкам магчыма гэтак я апраўдваю тую сур'ёзнасьць, зь якою цяпер адбываюцца нашыя сэансы. Няхай сабе й так. Я не зьбіраюся высьвятляць гнасэалягічныя карані маіх паводзінаў.

Гэтая зьмена не адбілася на пэрыядычнасьці нашых стрэч. Як і раней, я няшмат надаю яму ўвагі. Часьцей у тыя выходныя, якія цалкам праводжу ў сваёй кватэры, седзячы над кнігамі, або над рукапісам.

Ён зьяўляецца нечакана й немігаючы сочыць-чакае, пакуль я зьвярнуся да яго з прывітаньнем. Бакавым зрокам я бачу ягоную хударлявую постаць. Так Ён можа чакаць гадзінамі.

Я ўздымаю галаву і кідаю звыклае "прывітаньне". Ён вітае

гадавое й роўным нетутэйшым голасам задае першае традыцыйнае пытаньне: "Як справы?" Я прапаноўваю яму сесьці. У залежнасьці ад настрою або буркну "нічога", або ў некалькіх сказах распаводжу пра апошнія падзеі, якія атачаюць маю аўгусьцейшую асобу. Ён уважліва слухае й ніколі не перабівае мяне. Здаецца, нейкі таемны прыбор фіксуе кожнае маё слова. Па пытаньнях я адчуваю, што яго найперш цікавяць мае заняткі літаратурай. Ён распытвае пра рукапісы з рэдакцыйнага партфэлю Таварыства Вольных Літаратараў, пра асобных сяброў ТВЛ, пра наш новы часопіс. Адзінае, аб чым Ён ніколі не пытаецца, дык гэта над чым я працую зараз. Ён ніколі не імкнуўся зазірнуць у аркуш з маімі крамзолямі. Мяркую, што мой госьць засьцерагаецца, каб, крый божа, не паўплываць на мае творчыя памкненьні, жаданьні, вынікі. Я цікаўлю яго як незалежная, самастойная, творчая асоба. Па пытаньнях адчувалася, што Ён ухваляе мой упарты нонканфармізм і мае буйнамаштабныя пляны-фантазіі.

Аднойчы Ён спытаў мяне: "Як ты лічыш, колькі праіснуе ТВЛ?" Я адказаў, што справа ня "ў колькі праіснуе", а што яно зробіць. Можна засноўваць Таварыства, якое будзе йснаваць доўга-доўга, але йснаваць мёртвым жыцьцём. Хаця кожны зь сяброў Таварыства будзе па-за яго межамі нешта рабіць, і, магчыма, нават нядрэнна. Тады Ён задаў наступнае пытаньне: "І ты лічыш, што ніхто зь іх табе ніколі не здрадзіць?" Праблема здрады мяне не цікавіла. У гэтай справе, лічу я, можна здрадзіць толькі сабе самому. "Здрадзіць можна жонцы, -- сур'ёзна адказаў я. -- Я задужа вольны, каб хтосьці зь іх мог мне здрадзіць. Хутчэй нават і ня мне, а справе. У адносінах да мяне могуць быць кепскія, ці нават брудныя учынкі, але ж ад іх наяўнасьці нічога ня зьменіцца ў маім жыцьці, ня зрушыцца таксама й вэктар агульнай справы". Нечакана мяне занесла ў нейкі пафас уласнай гадоўлі. Узгадваючы сёньня той адказ, я пасьміхаўся з майго поўнакроўнага аптымізму, аднак, калі б я пачуў яшчэ раз гэткае пытаньне, то адказ быў бы не на шмат адрозны.

Некаторыя яго пытаньні даволі прымітыўныя. На такія не цікава адказваць. Яны мне нагадваюць пытаньне сьледчага: "Як ваше прозьвішча?" Тое, што мой госьць добра абазнаны ў маім асабістым жыцьці, не выклікала сумліву. Але, пэўна, ёсьць такія рэчы, якія нельга ні падгледзець, ні даведацца ад кагось-

ці іншага.

Часам Ён распытвае, як зразумець той ці іншы радок з маіх вершау. Пытаў: "Як зразумець - "Спроба Ікара, як пакаты шара, шлях які хочаш, а усёшчэ -- адзін"? Ты — фаталіст?" Я чарговы раз казау, што вершаваныя радкі нельга тлумачыць з пункту гледжаньня логікі. Я не магу дакладна сказаць: нарадзіліся гэтыя радкі дзякуючы майму уласнаму жаданьню, па волі майго інтэлекту, ці гэта плён падсьвядомасьці або нават чыясьці падказка. (І тут я адчуваю, колькі містыцызму месьцілася у ва мне самім.) Я дакладна адчуваю, калі верш можа нарадзіцца, хутчэй нават ён ужо недзе ёсьць, і я толькі сьведчу яго прысутнасьць. Таму я не магу пісаць вершы пра родны горад ці пра каханьне да радзімы, бо гэтага Там проста ня можа быць. Налёт фаталізму -- так. Я веру у прызначэньне й лёс. На тое ёсьць прычыны. Але пра іх я не хачу гаварыць. "А як жа тады вершы пра любімую жанчыну?" — здзівіў Ён мяне. Я адразу не зразумеу пытаньня. "У лірычных вершах іншыя законы нараджэньня", — праз колькі хвілінау адказау я. Я больш нічога ня меу дадаць да гэтых слоу. Наступным я чакау пытаньня пра маё прызначэньне. Аднак мой суразмоуца яго не задау, пэуна разумеючы, што яно было б не па адрасу.

Цікавіуся Ён і датамі напісаньня асобных творау, у тым ліку вершау "Памяць" і "Спадчына". Адказаць на гэтыя пытаньні я таксама ня мог, бо у маёй літаратурнай дзейнасьці не было ніякай сыстэмы. Я ніколі ня ставіу дату напісаньня верша, акрамя таго я ня меу ніякіх агульных сшыткау, куды б перапісвау свае вершы. Вершы я пісау на чым давядзецца. Паперкі паволі запаунялі мой працоуны стол і скураную сумку праз плячо, якую я паусюдна цягау з сабою. І калі трэба было выдаваць свой чарговы зборнічак, я высыпау усё гэтае багацьце на падлогу й пачынау укладаньне кнігі. Тады ж я й дапрацоувау свае няскончаныя вершы, або нешта выпрауляу у скончаных. Пасьля завяршэньня укладальніцкай дзеі, звычайна усё, што заставалася за бартом зборніка, зьнішчалася. І працэс назапашваньня паперак пачынаўся ад пачатку. Гэта была мая нейкая інстынктыўная звычка. Такім чынам відавочна, што я да сваёй літаратурнай дзейнасьці ня ставіуся з хваравітай важнасьцю.
Я упарта шукау шляхоу да літаратурнага нонканфармізму у тата-

літарнай краіне (што, магчыма, гучыць як попоэна), калі можна было б пісаць і друкавацца не вносільваючыся, не прыстасоўваючыся, не зарабляючы гэтым грошы — а проста пісаць і не шкадаваць, калі напісанае нішчылася, або гублялася.

А які сэнс тады у маёй пісаніне? Ня ведаю. Ён такога пытаньня мне не задаваў. А самаму сабе выдумляць адказ... Навошта?

Цікавіла Яго й маё дзяцінства. На жаль, я кепска яго памятаю. Я нават не магу узгадаць, як я пайшоў у першую кляму, зь кім сядзеў за партай, не магу узгадаць твар першай настаўніцы. Гэта мне самому здаецца дзіўным. Але усе мае высілкі узгадаць штосьці дзіцяча-шчымлівае сканчваюцца безвынікова. Магчыма таму я не хварэю настальгіяй па дзяцінству. Праўда, казаць, што маё дзяцінства было сумным і нішчымным, казаць няпраўду. Мае маці й бацька былі добрымі й клапатлівымі бацькамі, акрамя таго яны доўгі час працавалі за мяжою й мелі грошы на жыцьцё. Аднак дзяцінства мне здаецца нейкім іншым жыцьцём, фарбы якога ужо пажухлі. У дзяцінстве я меў некалькі знакаў, але й іх я ня памятаю, ведаю па словах бацькоў.

Свае адказы на Ягоныя пытаньні мяне часам расчульваюць. Некаторых адказаў я ад сябе не чакаў. Тады пазьней я пачынаю іх аналізаваць, пераглядаю свае пазыцыі, але праз нейкі час вяртаюся назад. Неяк незаўважна, а усё ж вяртаюся. Гэта ніякае не самакапаньне. Паўтаруся, што я ня маю часу на марнатраўныя справы. І нават сёньняшняе няпростае жыцьцё не замінае мне займацца тым, чым я хачу займацца. Гэта ня толькі літаратура. Тут шмат чаго іншага.

... Ён зьбіраецца яшчэ нешта спытаць у мяне, аднак я сьпяшаюся на прызначаную сустрэчу. Я устаю з-за стала й працягваю руку да скуранай сумкі. Ён адразу зьнікае. Ён ведае, што я не люблю спазьняцца.

# СЛАВАМІР АДАМОВІЧ

## ДЗЁРЗКІЯ ФАНТАЗІІ НА ТЭМУ СЛАВЫ

Мяне, засьпяванага у пад'ездах,
мяне, зачытанага у блаткатах,
будуць скланяць на сваіх партзьездах
чарговыя мафіі партакратаў.

Мне будуць лезьці пішчом у вочы,
за штрыфлі тузаць, прасіць аўтограф...
"Ён вырас у горы, на хлебе сірочым..." —
напіша потым шустры біёграф.

Напішуць потым, як жыў, чым дыхаў,
плявузгаць будуць пра лёс, пра творчасьць,
а на іспыце студэнцік рыхлы,
пачуўшы імя маё, лоб свой зморшчыць.

І пільны крытык штосьці накрамзоліць
пра раскрыстанасьць душы сярмяжнай,
і будуць радні мае вочы мазоліць
віду зь ягонай душой прадажнай.

І толькі травы, зьвяры і птахі
мой дух атуляць, калі, нясьпынны,
блукаць ён будзе без апранахі,
нікому больш нічога ня вінны.

* * *

Зіма — ні марозу, ні гурбаў,
ні сьнежнае бабы у двары.
Чамусьці у душы неяк груба
і хочацца упасьці згары.

І не далящець, а згубіцца
у сінім ядлоўцавым сьне,
у рыжа-блакітнай ігліцы,
у гуках старога Масна.

25.01.93

## ТАЦЬЦЯНЕ

Пра усіх ня думай дрэнна,
мяркуючы па мне.
Магчыма, я — антэна,
магчыма, што і не;
магчыма, я лакатар,
магчыма, толькі шлюз,
магчыма, экскаватар —
капаю дрэнь і друз,
што людзі накідалі
за тысячы гадоў;
магчыма, я — сандалі
стаптаныя багоў;
я сьлікагель, магчыма,
і моры сьлёз людскіх
высмоктваю чульліва
з кватэраў гарадзкіх;
магчыма, я і прагну
рабіць дабро, але
хутчэй за усё я — магма
і стыну на скале;
магчыма, я кахаю,
але ня так, як вы;
магчыма, я хаваю
пад пахай нож крывы,
і вы не рызыкуйце
са мной ісьці у кіно —
я блытаю часамі
жывую кроў зь віном.

## РАНІШНІЯ КАНТАМІНАЦЫІ НА ТЭМУ $H_2O$

Калі, зубоў прарваўшы белую ахову,
язык мой скопіць кроплю ранішняй расы
зь пялёсткаў толькі што расквітлай ружы —
о, гэта будзе момант
пранізьлівае радасьці! —
калі клінок шурпаты языка
ўвап'ецца ў сэрца самае бутона.
О, космас! Неўнікнёнасьці тваёй
я прагну, я той чмель,
якому трэба мора, мора кветак,
зь якіх бы ён мог браць пылок,
яго ператвараючы ў мёд вечнасьці.
Вось я, але хто ты,
чыя так сьмела ранішай расістай
сьпее кветка?
Чыя ж, чыя, раскошная надзіва,
і ўвечары, і ўраньні спакушае
маю зусім разбэшчаную плоць?
А можа так і трэба?
І хай ад жарсьці пекліцца душа.
Няхай яна, застаўшыся ў зрэбным,
у рызманах і босая, адна,
але няхай яна, як духам хлебным,
напоўніць вольным духам Пяруна
маіх касьцей сырыя пусткі.
Што ж, я такі:
ад самае калыскі, яшчэ не распазнаўшы белы сьвет
і ў ім сябе,
я стаў падоўгу доўга заглядацца
на кроплю чыстай ранішняй расы,
якая распадаецца паволі
у асмужаным трохкутніку ядлоўца.
Яшчэ тады мне падказалі слоўца
таемнае і моцнае, зь якім
я мог у сьвет ісьці, нязнаны й дзёрзкі,
але абавязаўшыся вярнуцца

аднойчы ўраньні ў росныя лугі.
Таемнае мне слова нагудзелі
чмялі і пчолы, восы, а яшчэ
(была тады, здаецца, што нядзеля)
і сонны вожык на сырой жарсьцьве.
Я спазнаваў прыроды элементы,
адрозьніваць вучыўся верасы
ад чабароў і мяккай дзеразы.
Я гаварыў ім столькі кампліментаў
(расьлінам і зьвярам без выключэньня).
І усё гэта за кропельку расы,
за права сузіраць яе штодня.
Радня мяне шукальнікам назвала
за вечныя блуканьні і за упартасьць.
Ня ведала яна, што мая вартасьць --
быць братам яшчарцы,
шаптацца з воўчым лыкам,
на крык знаёмы адгукацца крыкам
сярод начы, калі гудзяць крушчы,
зьнішчаючы спакойна хлярафіл;
любіць і матылёў, і дразафіл;
любіць спачатку дождж, а потым -- сонца,
калі яно гуляе ў кроплях дзёрака
і зайчыкаў пускае на казырак,
і сьлепіць вочы сонным кажанам;
любіць расу вячэрнюю, на сконе
дня доўгага, калі з балотаў цягне халадком;
любіць прыроды чын і беззаконьне;
любіць, калі раптоўна град-і-гром.
Калі, зубоў прарваўшы белую ахову,
язык мой скопіць кроплю ранішняй расы
так далікатна, што не здрыганецца
ружовы гіяцынт, -- тады паўстане
з трохкутнае прасторы новы дзень.

# ІГАР СІДАРУК

## ТОРБА

Трагічная містэрыя зь мільгаценьнем у вачох
і гудам у ерыхонскіх трубах

Дзейныя асобы:

МУЖЫК — пэрсанаж цалкам інфантыльны, таму можа быць зьліквідаваны.

НЕЙКІ Ж — пэрсанаж цалкам непатрэбны, таму можа быць зьліквідаваны.

ПАН — пэрсанаж цалкам крывасосны, таму можа быць зьліквідаваны.

ЖАЎНЕР — пэрсанаж цалкам гераічны, таму яму наканавана памерці.

АКУЛЯРЫК — пэрсанаж цалкам сталоўчы, таму скільны да самаліквідацыі.

ВЫГРЫЗАК — пэрсанаж цалкам адмоўны, таму тут ня усё так проста...

САРАМЛІЎКА — пэрсанаж цалкам недарэчны, таму жыве й пасьля ліквідацыі.

На сцэне — бясконцыя драбіны, якія вядуць у неба. Недзе высока-высока сядзіць Мужык, круціць вяроўку. За ягонай сьпінаю — велічныя ерыхонскія трубы. Выбягае Нейкі ж.

НЕЙКІ Ж. А-а, музік! Ты гаўнюк!

МУЖЫК (тупа пазірае на Нейкага ж). Чаго так?..

НЕЙКІ Ж. А вяроўка навоста? Весацца будзіс?

МУЖЫК. Куды-ы?

НЕЙКІ Ж. А навоста?

МУЖЫК. Нейкіх жа рэмэць...

НЕЙКІ Ж. Вей, гвалт! (Бяжыць, ледзь не зьбівае з ног Пана.)

ПАН (выходзіць пузам наперад). У маім маёнтку жыць усім харашо! Хто ня згодны, таму — хрась! (Падымае ўверх кулак, парослы густой поўсьцю.)

НЕЙКІ Ж. А-а...

ПАН. Хрась! (Лупіць кулаком Нейкага ж па твары.) Так, нечая морда?

НЕЙКІ Ж. Так, паноцку, так, даражэнькі!..(Ловіць панскую руку, цалуе.) Зьеду, зьбягу, утаплюся!

ПАН. Гэй, Мужык, так?

МУЖЫК. Сруль...

ПАН. Што?!

МУЖЫК. Не табе, вашэць. Нейкі ж — Сруль. Звацць так...

На сцэну пры поўным воінскім парадзе зьлева крочыць Жаўнер, паліць з мушкету. За ім бяжыць Выбрыдак.

ЖАЎНЕР. Вяроўка мацуе!.. Вяроўка мацуе... (Да Выбрыдка.) Падкажы, што мацуе?

ВЫБРЫДАК. Падмурак.

ЖАЎНЕР. Заб'ю! (Цэліць з мушкету ў Выбрыдка.)

ПАН. У маім маёнтку жыць усім харашо! Шануй Нейкага ж!

ВЫБРЫДАК. Ня дам! Ня дам! Гэта наш! (Першы коцае Нейкага ж нагамі.)

Да Выбрыдка далучаюцца Жаўнер і Пан. Мужык зьверху тупа пазірае ўніз.

НЕЙКІ Ж. Гвалт! Ратуйце! Забіваюць!

На сцэну выходзіць Акулярык, некалькі хвілінаў зь цікавасьцю й пакутай у вачох глядзіць на зьбіваньне.

АКУЛЯРЫК (падымае ўверх вочы, заўважае Мужыка). А-а, Мужык! Вось ты мне й трэба. Цяпер я буду цябе навучаць малапагоскае мове! Малапагоская мова — гэта такая мова... што калі яе... калі зь ёю... ды й шчэ вывучыць!.. А там... а там! Чуеш, Мужык цурны?

МУЖЫК. Чую. Хвайна Нейкаму ж морду чысьціць.

АКУЛЯРЫК. Я яму пра малапагоскую мову, а ён...

Раптам чуецца неймаверна рэзкі сьвіст, гудуць

ерыхонскія трубы. Усе затыкаюць вушы, задзіраюць галовы ў неба. Мужык вось-вось грымнецца ўніз і-такі падае. І адразу за ім на сцэну зьверху валіцца торба, шаракае Мужыку па галаве.

НЕЙКІ Ж (ціха). Гвалт...

ПАН. У маім маёнтку жыць усім харашо! Торба — гэта небясьпечна!

ЖАЎНЕР. Абаронім! Абаронім! Дайце кукарду!

ВЫБРЫДАК. О так, мля! Ну усё, мля! (Скача полечку.) Тра-та-та, тра-та-та, мае торбу свалата!

АКУЛЯРЫК. А што я вам казаў! Трэ' было малапагоскую мову вучыць!

НЕЙКІ Ж. Хадзі адсюль! Тут нейкай ма ніхто ня ведае... (Да Мужыка.) Прадай, га, Музік? І торбу прадай, і вяроўку.

МУЖЫК (інстынктыўна хапаецца на торбу). Ня дам! Маё!.. (Пры гэтым губляе вяроўку, якую хоча падняць Выбрыдак. Мужык хапаецца й за яе.) Ня дам! І гэта маё!

Зьяўляецца Сарамліўка, сарамліва кусае пазногці.

САРАМЛІЎКА. Я такая прыстойная, такая сарамлівая... Аддайце... Гэта я згубіла.

ВЫБРЫДАК. Што ты згубіла, паршыўка?

САРАМЛІЎКА. Я ну такая сарамлівая... І думкі ў мяне ну такія чыстыя й высокія... І жыцьцё ў мяне ну такое гаротнае й пакутнае... Аддайце... Гэта я згубіла.

Нечакана зьяўляецца Чорт з патэфонам.

ЧОРТ. Хадзі сюды, гаротніца. Я табе цукерку дам. Яна з аднаго боку салодкая, а з другога — горкая. Хоць на смак — усё адно. (Працягвае Сарамліўцы цукерку.)

САРАМЛІЎКА. Дзякую. І спаднічка ў мяне чыстая. Вы проста не ўяўляеце, якая я сарамлівая...

ВЫБРЫДАК. Я ўяўляю. Адразу бачна — мая кроў! А тваёй цукеркі я не хачу. Хоць і зьем. Потым табе, Сарамлівачка, раскажу, якая яна на смак.

Выбрыдак вядзе Сарамліўку, яна ўсьміхаецца найперш яму, потым Чорту, а потым і ўсім астатнім...

ЧОРТ. Ну? (Акідвае ўсіх грозным паглядам.) Дзе мая торба?

Нямая паўза. Усе зацята глядзяць на Чорта.

ЖАЎНЕР. Па-маладагоску гэта будзе: "Слава тарбахвацкім узброеным сілам!"

АКУЛЯРЫК (кідаецца на шыю Жаўнеру). О, які ты разумнік! Усе на курсы маладагоскае мовы!

Пакуль Мужык саладжа вускае сьлюні, слухаючы заўзятым Акулярыка й Жаўнера, апошні нахабна выкрадае торбу. Чорт гэта бачыць. Бачыць і Акулярык, моўчкі й са скрухаю хітае галавою. Дастае нататнічак, запісвае...

ПАН. А грошы на курсы ёсьць?

Чарговая нямкая паўза, усеагульнае асалупяненьне.

То-та! А ў мяне ёсьць! Ня дам! (Паварочваецца сьпінаю да залы. Усе бачаць, што на ім такія ж апранахі, як і ў Мужыка. Толькі сьпераду яны прыкрытыя шыкоўным сурдутам.) У маім маёнтку ўсім жыць харашо!

ЧОРТ. У тваім маёнтку жыць пагана! Дзе мая торба?

МУЖЫК. Ну то й я ня дам!

ЧОРТ. А нашто яна табе, Мужык?

МУЖЫК. Га? Мне? Я... а... ба... ва... гэ... хе... Хезаць у яе буду, во!

ЧОРТ. Як?

МУЖЫК. А вось так! (Азіраецца, шукаючы торбу.) Няма... Вяроўка толькі...

ЧОРТ. Можа, кто скраў?

ПАН. О-то, Нейкага ж морда!

ЖАЎНЕР. За торбу я загрызьці гатовы! Р-р-р! (Кідаецца на Нейкага ж і сапраўды загрызае яго.)

НЕЙКІ Ж (хрыпіць перадсьмяротна). Лепш забяры мяне чорт!

ЧОРТ. Забяру! Ты мне спадобы! (Валачэ Нейкага ж за ногі прэч.)

Мужык абкручвае вяроўкаю галаву, становіцца падобны на мумію. Пан хавае галаву ў ногі Мужыку. Адзін Акулярык мужна стаіць насупраць Жаўнера, адкрыта глядзіць яму ў вочы.)

АКУЛЯРЫК. Гэта вельмі памылковы, негуманны, амаральны, нячысты, хрусткі, хіоткі, гразкі, траскі, вар'яцкі, кавале-

рыйскі крокі..

ЖАЎНЕР (круціць торбаю над галавою).

Мы — красные кавалеристы, и про нас
Рассказчики речистые ведут рассказ!..

АКУЛЯРЫК (з савецкаю пакутаю ў голасе). А як жа курсы малапольскае мовы?

Раптам вяртаецца Чорт. Падымае свой кінуты патэфон.

ЧОРТ. Ну? Дзе мая торба?

Нечакана Пан скача Мужыку на плечы, угрувашчваецца як мага зручней.

ПАН. Ну, Мужык, трымайся! Я зараб цябе й торбу тваю ад Чорта бараніць буду.

МУЖЫК (скручвае з галавы вяроўку). Дык торбы ж няма...

ПАН. І ня трэба! Затое Чорт ёсьць. А ў маім маёнтку мы зь ім згаворымся.

ЖАЎНЕР. Галоўны барацьбіт — гэта я! Аць-два! Аць-два! (Крочыць вакол Мужыка й Пана. Усе, акрамя Акулярыка й Мужыка, заўважаюць, як Жаўнер губляе торбу, якая ляжыць сабе спакойна ля ерыхонскіх трубаў.)

АКУЛЯРЫК. Ня веру! Дзе фрэнч і кукарда?

ЖАЎНЕР. Я — дзяржаўны чалавек. Ня засьці! Зьліквідаваць! Зьліквідаваць! (Набірае ўсё большыя абароты, робіць хуткія й адмысловыя кругі па сцэне.)

Чорт зьнянацку таксама скача на плечы да Мужыка разам з патэфонам.

ЧОРТ. Пан, пасунься!

ПАН. А ты тут навошта?

ЧОРТ. Перамоваў хачу. Што ўзамен просіш?

МУЖЫК. Ня дам! Маё!

ПАН. Тваё. А бараніць буду я.

ЧОРТ. Ну што, Пан, хочаш?

ПАН. Мужыцкая торба не прадаецца! (Цішэй.) А патэфон дасі?

ЧОРТ. Дам. Толькі давай так: хто каго пераскача, таго й торба, і патэфон. А ў мяне капыто адно зламанае, магу першы зваліцца. Дык як, згода?

ПАН. Згода! (Цішэй, да Мужыка.) Гэй, мужык! Вяроўка з табою?

МУЖЫК. Тут...

ПАН. То дай прывязацца! Чуў? Каб Чорта адолець і торбу абараніць, трэба разам зь ім на табе паскакаць. Інакш усім нам пагана будзе!

МУЖЫК. А мне дык што... Мне нічога... Барані маю торбу, Паночку, гані нячыстага.

ЧОРТ. Ну, Пане, паскакалі?

ПАН. Давай! (Надзейна прывязваецца да Мужыка. У гэты момант Чорт дастае з-за пазухі крылы, прымацоўвае да свайго хваста.) І-і, эгэй, гэй, гэй! Хоп, хоп, хоп!

ЧОРТ (вішчыць). І-і-і! Цок, цок, цок! Хэк, хэк, хэк!

Мужык крэкча, барвавее, сьціскае зубы. Аднак трывае... Рух Жаўнера усё ймклівей.

АКУЛЯРЫК (нагінаецца да Мужыка). Што, братка, цяжка табе? Бачу, бачу, што цяжка... А калісьці твае продкі гандлявалі з малапагосцамі... Ведаеш, як будзе па-малапагоску "ветразь"?

МУЖЫК. Не... Ліха тваёй матары!

АКУЛЯРЫК. А я табе скажу...

ЖАЎНЕР (яшчэ больш паскараючы хаду). Дайце кукарду! Слава тарбахвацкім узброеным сілам! Сьмерць супастатам! Ідуць тарбахваты! Гэй, курацапы! Прэч брудныя лапы! Стрэлю зь пістолі! Злаўлю зайца у полі! Болей адвагі! Руш да прысягі!

ПАН (скача на сьпіне Мужыка). Гэй, гэй, гэй! Хоп! Хоп! Хоп!

ЧОРТ (скача побач з Панам). І-і-і! Чок, чок, чок! Хэп! Хэп! Хэп!

АКУЛЯРЫК (да Мужыка). Цяпер ты ведаеш, каму па-праўдзе баліць за тваю торбу?

МУЖЫК. Ведаю...

АКУЛЯРЫК. І каму?

МУЖЫК. Малапагосцам...

Пан і Чорт не спыняюць свае скокі. Бы мэтэор, носіцца вакол іх Жаўнер, паліць з мушкету. Акулярык з жалем гля.зіць на Мужыка, скрушна хітае галавою.

На сцэну крадком выходзіць Выбрыдак, за ім сарамліва цягнецца Сарамліўка.

ВЫБРЫДАК (адразу заўважае торбу). Сарамліўка! Глянь, торба!

САРАМЛІЎКА. Аддай!.. Гэта я згубіла.

ВЫБРЫДАК (падымае торбу). Я табе дам у яе зазірнуць.

САРАМЛІЎКА. Праўда?

ВЫБРЫДАК. Праўда. Толькі апраніся.

САРАМЛІЎКА. Ой, я такая сарамлівая... І спадніца ў мяне бялюткая... Я лепш яе ў руках панашу...

ВЫБРЫДАК. Так яшчэ больш выпэцкаеш.

САРАМЛІЎКА (сарамліва прыціскае спадніцу да грудзей). Затое цела чыстым застанецца. Ты мне торбу хоць здалёк пакажы.

ВЫБРЫДАК. Пакажу. Я пайшоў, а ты глядзі. Калі зусім бачыць не будзеш, тады крыкнеш.

САРАМЛІЎКА. Я такая ціхая, такая рахманая...

ВЫБРЫДАК. О, вітаю, вітаю! (З торбаю пад пахай уцякае.)

ПАН. Гік! Гік! Гік!

ЧОРТ. Гоп! Гоп! Гоп!

ЖАЎНЕР (носіцца з такой хуткасцю, што ледзь не падае з ног.) Бі, барабан! Бі, барабан! О-са-а-ві-я-хім!

АКУЛЯРЫК (выхоплівае малапагоскі сцяг, распроствае яго). О, малапагоская зямля, ужо ты за пагоркам! І я паміраю ад жалю. (Хапаецца за сэрца й сапраўды памірае.)

Мужык крэкча, крэкча й нечакана нешта страшэнна трашчыць: ці то штаны, ці то скура... Гудуць і рушацца ерыхонскія трубы, завальваюць Чорта, Пана, Мужыка, Жаўнера, мёртвага Акулярыка, Сарамліўку. З-пад абломкаў тырчыць толькі галава Сарамліўкі.

САРАМЛІЎКА. Торбачка мая... запаветная...

Расьсейваецца пыл. Усё ціха. Па драбінах, якія вядуць у неба, Чорт цягне Выбрыдка разам з торбаю.

ВЫБРЫДАК. Мая, мая, мая торбачка!

ЧОРТ. Маё, маё, маё небачка!..

З а с л о н а

19 жніўня, 1992
Кобрынь

# ЮРЫ ГУМЯНЮК

## ФАНЭРА НАД ПАРЫЖАМ

Пралятай, спадар Мікола,
як фанэра над Парыжам!
Мы ж а з пляшак "Кока-Колу"
п'ем ды зноўку вершы пішам.

І зьбіраемся на даху,
атрымаўшы ганарары,
як хаўрусьнікі па фаху
ды дзяржаўныя ахвяры.

Пачынаем: "Аты-баты..."
Ў скрусе молімся: "Дай, Божа..."
Палім ксёнжкі-дыяметы,
грэе нас вагонь прыгожы.

Зранку цягне ў прыбіральню...
Звоніць сябра з Тэль-Авіву:
"Мора... пальмы... словам, ў йна!"
Я ў адказ: "Пайшлі на піва!"

Ён мне мовіць: "Ананасы...
сонца... пляжа... і кабеты!"
Я тлумачу: "Тут калгасы,
Адраджэньне, камітэты...

Тут сьмярдзіць літаратура --
сьметнік сацрэалістычны,
чупірадла ў гарнітуры
з пострсялянскай, браце, звычкай".

"Эх, шкада... Да пабачэньня!"
"Ці пабачымся наогул?"

"Гэта, сябра, прызначэньне,
ці малітвы Пану Богу..."

Ну размова — дык размова!
Сэнс — суцэльная загадка...
А званок невыпадкова
абудзіў малую хатку.

Колькі ж нас у гэтай хаце?
Сябрукі сьпяць на падлозе.
Хутка прыйдзецца зьбірацца,
моўчкі стыгнуць на марозе.

Я гляджу ў акно. Наўкола —
дахі, коміны, антэны...
Праляцеў спадар Мікола
над Мадрыдам, Рымам, Вэнай,

па-над Нёманам вірлівым,
над Калёжай, замкам, пляцам.
Паматляўся асабліва
над турмой, нібыта тацай...

Гэй жа гэй! Старая школа,
Alma mater! Мы напішам:
"Праляцеў спадар Мікола,
як фанэра над Парыжам!".

зіма 1992 — вясна 1993.

## А К Т

Славаміру Адамовічу

Перапоўнена спэрмай паветра,
ажно дыхаць зусім немагчыма,
ажно стогне ў магіле Дон Пэдра,
адчуваючы здольнасьць мужчыны.

Рассыпаюцца вейкі касьцёлау...
Эх, няблага б займець па цагліне —
шараваць інфантылак дзябёлых
ці у аборы азадкі скацінэ.

Твой лірычны герой не умірае,
сьцяўшы зубы стаіць на каленях,
цьвёрды фалас сьлінай навільжняе,
нібы так запаведвау сам Ленін.

А за шыбай гудуць жамярыцы,
быццам "юнкэрсы" над Сталінградам.
Будзь, што будзе! А мо ажаніцца?
Ці павесіцца ля калюмнады?

чэрвень 1993.

ДЗЕНЬ, ЯК ТЫДЗЕНЬ

Абсалютна новыя крэацыі:
у гадзіну ночы — фасцынацыя,
раніцай — другая мастурбацыя,
а на працы — дэкамунізацыя.

Сябра зноу раскажа пра палюцыі,
сакратарка аб вандроўцы у Турцыю,
шэф падпіша кутка рэзалюцыю,
каб спыніць нарэшце прастытуцыю.

За абедам пачынаем акцыю —
паўшчуваць парляманцкую фракцыю,
падтрымаць адно прыватызацыю
і забарэніць русіфікацыю.

Увечары, каб зьнішчыць гігакрызію,
паглядзіш у хаце тэлевізію,
вып'еш шклянку белае магнэзіі...
Вось яна, тыднёвая паэзія!

вясна—лета 1993.

# СЯРГЕЙ ПАТАРАНСКІ

## НАПОЙ

Цябе я п'ю, — напіцца не магу,
а мне здаецца: п'ю адну атруту
у палову з гноем і сьмярдзючым брудам...
І вось прыйшла каханьня немата,
калі ўжо ўдзейсьненыя ўсе намеры
на тле распусным і гібенным,
дзе зьліты цела і душа.

А што пасьля:
вясновая шаша,
і сьведак рой з паганым прысудам,
разьбіты посуд на стале,
замуляны у бэтон св здрадай,
драпежніцкая цішыня,
дзе кожны сам сабе ня рады,
з пацёкам крыві на губах,
і пахам сьпірта у душнай ваньне.

Вы знаеце, чамусьці
я асьмеліся назваць работай
пачуцьцяў шклянку на вакне,
разьбітую так бестурботна.

* * *

Напаі Расею "благадацьцю"!
Напаі гарэлкаю пшанічнай,
каб ляглі пад небам, пад пальнам,
пад ракою злое пацярукі
тыя стогны, вершы і прашэньні
і маленьні у храмах згвалтаваных,
кінутых на суд рабам, зашмальцаваных,

цалаваных в волі прастытутак
і прайдохаў мехам акайданых.

Напаі!.. Няхай нап'юцца веры,
вап'янеюць, зглузду зьедуць зьверы,
птахі, чарапахі, людажэры,
твары ночы шэра — шырнае — пашэрай,
недабітай, непакрытай хэўрай..,
каб падохнуць у Імя трохадзінства Бога
і сказаць "Амінь" і "Слава Богу".

А у наступны дзень яны сканалі,
наталіўшы згучнымі глыткамі
усё, чаго так доўга прычакалі,
дачакалі, зьбіліся, упалі
і разьбіліся, напіўшыся змаганьня...

Як краіна — белая-рабая,
што ляжыць пад небам, пад палыным,
пад ракою злое пацярухі,
у якое вершы, стогны і маленьні
у храме згвалтаваным і праданым
на арэне роўнасьці й братэрства
там, дзе ходзяць "крашаныя сукі" —
асаблівасьці мясцовага фальклёру
і жадаюць хіжыя прайдохі
на задраных бэльках бахвалы.

## СВАБОДА

Свабода ня мае воч.
Свабода ня мае вушэй.
Свабода ня мае цела.
Яна — як вада цячэ.

Яе не нальеш у посуд,
Але яе п'юць з гарла.

Свабода — напой для моцных,
А водар яе — мана.

Сапраўднасьць Свабоды ў сьмерці.
Свабода — як пашпарт на сьмерць.
Хто толькі крычыць аб Свабодзе
ня здольны яе зразумець.

Свабода ня мае твару.
Свабода — агульны рот.
Свабода — спакусаў спакуса.
Свабода — экстаз свабод.

Свабода — сапраўдная мера
для веры і тлуму быцьця.
Свабода — свабода сумленьня
і вечная сіла жыцьця.

## ПРА САБАКА

І стала свабодна...
І стала галодна...
І выкінуў нехта з кватэры сабаку.
Бо ноччу заснуць не даваў ён нікому.
І зубы тачыў аб бярвеньня канапы.

Галодны сабака гуляе на волі,
пужае дзяцей і ганьбуе дарослых.
Ніхто на сабака ня мае дазволу,
бо ён па закону вядзе паляваньне.

Фашысты сабака прымаюць за сябра;
наводзяць парадкі ў эпосе застою.
Трацкісты сабака ня любяць зацята;
ратуюць цнатлівасьць ва умовах падпольля.

Сабака кусае, сабака палюе,
сабаку народнага сіла падмога,

І рдзеюць кавалкі чырвонага мяса,
згубіўшага недзе штаны рэнегата.

Пужаюцца дзеці, злуюцца старыя,
віною таму небарака-сабака.
Паліцыя голавы у ложках згубіла
і толькі бясьсільна разводзіць рукамі.

Прыйдзі і кусай нігілістау прадажных,
О, прывідны мой летуценны драпежнік.
І зьнікнуць распусныя слопам сатрапы,
бо слабасьць мазгоу быць ня можа адвечнай.

# АЛЕСЬ АРКУШ

## ПАД ПОКРЫВАМ НАТОЎПУ

Крытычны стан беларускае кнігі відавочны. Наклады памяншаюцца ад выданьня да выданьня, пляны выдавецтваў выконваюцца горш, чым праміНулыя працоўныя пяцігодкі, а большасьць кніг, якім усё ж пашэньціла "матэрыялізавацца", бязладна пыляцца па кнігарнях, згубіўшы апошнюю надзею кагосьці зацікавіць. Спробы абеларусіць оімянонаў ды лемаў і гэткім чынам прыцягнуць тутэйшага чытача да беларускага слова, прыкметных посьпехаў не прынесьлі. Каб хоць неяк зьвярнуць увагу пакупнікоў да сваіх твораў, некаторыя з аксакалаў сацыялістычнага рэалізму пачалі шчыраваць на дэтэктыўных і авантурна-прыгодніцкіх палетках. Але, як высьветлілася, беларуская літаратура ні ў ваднным з жанраў ня здольная сёньня йснаваць без бюджэтных "батарэяк сілкаваньня". Не тое шмат прычынаў, але прычыны гэтыя хвалююць толькі зацікаўленых асобаў (у тым ліку й аўтара гэтых радкоў).

Усё мацней гучаць пісьменьніцкія скаргі: на неспрыяльныя ўмовы, на адсутнасьць урадавага клопату, на нізкія ганарары, на значнае пагаршэньне сацыяльнай абароны... А наклады й надалей з зайздросным пастаянствам памяншаюцца, беларускамоўная кніга працягвае займаць у беларускіх кнігарнях сьціплыя куточкі. Становішча пагаршаецца не ў апошнюю чаргу эканамічнаю крызай. Бяздушны бульдозэр псэўдарынкавых адносінаў працягвае мэтадычна шляжыць беларускую літаратуру эпохі сацыялістычнага рэалізму. Трапляе пад бязьлітасны нож ня толькі паказальныя ўзоры канфармісцкага літіснаваньня, але й тое-сёе з вартага ўвагі нашчадкаў. Усё пад адзін грабеньчык.

Капітаны Саюза пісьменьнікаў Беларусі згубілі ўсе арыенціры. Ранейшыя расклады перабльталіся, зьнікла аўра таямнічасьці й прэстыжнасьці э "аўгусьцейшых асобаў", "інжэнэраў чалавечых душаў". Паўсюдная камэрцыялізацыя пачала ўсталёўваць іншы лад мастацкага жыцьця. Усталі новыя верункі йснаваль-

ня творчай асобы, рэалізацыі сйных здольнасьцяў. Заклікі спыніць гэты разбуральны працэс, раўназначны заклiку спыніць час. Двойчы не ўвайсьці ў адну раку. Таму відавочна, хуткім часам адбудуцца значныя зьмены й у духоўнай галіне — мастацтве. Зьмены наблiжаюцца кардынальныя, але гэта не значыць, што творцы павінны дружна адмовіцца ад звыклых сёньня тэмаў, хормаў, жанраў і г.д., і з галавою кінуцца ў вір пошукаў новага. Якія б, нават самыя рэвалюцыйныя пераўтварэньні не зьдзяйсьняліся, да прыкладу, у сельскай гаспадарцы, усё адно людзі, якія занятыя ў ёй, мусяць вырошчваць хлеб.

Калі адбываюцца кардынальныя зьмены — гэта заўсёды цяжка. Вось і Старшыня Найвышэйшай Рады Станіслаў Шушкевіч на сустрэчы зь пісьменьнікамі (12 кастрычніка 1992 г.) не пабаяўся прысутным цяплічных умоваў. Адчуваючы, што прывілеям у СП прыходзіць канец, увесь генералітэт Саюза пісьменьнікаў пачаў шпарчэй уладкоўваць свае "звышактуальныя" творы, расьпіхваючы пры гэтым Мрыя, Ластоўскага, Дубоўку, Аляхновіча ды іншых. Хто ведае, калі яшчэ атрымаецца пабачыць новую кнігу, выдрукаваную за дзяржаўны кошт?

Няўжо прычыны крызы толькі ў рынкавым наступе? Напэт калі й так, дык, мусіць, трэба неяк улічваць падзеі апошніх дзён, іх запатрабаваньні (асабліва калі разумееш, што падзеі гэтыя незваротныя).

Дык што замінае СП бачыць сьвятло у канцы рынкавага тунэлю? Не ў апошнюю чаргу — двурушніцкі, няшчыры калектывізм. Сёньня СП Беларусі ўяўляе сабой своеасаблівы калгас, які ў лепшым выпадку не зьвяртае ніякай увагі на былых і новых, узьнікшых апошнім часам, аднаасобнікаў: у вас свае праблемы — у нас свае, у вас свая літаратура — у нас свая. Пісьменьніцкая арганізацыя ўсяго толькі прысвоіла сабе манапольнае права гаспадарыць у беларускай літаратуры. І не дзіва, бо літсыстэма ў часы бальшавіцкага панаваньня створана была зь вядомай мэтай. Калі й узьнікалі спаміж яе сяброў нейкія непаразуменьні, дык найчасьцей "баталіі" чыніліся на пабытовай ганарарна-пасадавай глебе. Таму й хапала такой вялікай па эўрапейскіх сумерак дзяржаве двух літаратурных часопісаў: "Полымя" ды "Маладосці". Друкаваліся ў іх усе разам, плячом да пляча, дакладней, патыліца да лоба — у чарзе па надрукаваньнь-

не (праўда, і тут былі свае "льготнікі"). Таму й усталяваўся за беларускімі пісьменьнікамі трывалы імідж: рахманыя, безаблічныя, бесканфліктныя. Нават пасьля гістарычных падзеяў, якія грунтоўна растрэсьлі ўвесь былы "Саюз непарушны", з Саюзам пісьменьнікаў Беларусі нічога не здарылася: ён не раскалоўся, як у Расеі, у ім не зьявіліся ані фракцыі, ані літсуполкі, ані плыні (маецца на ўвазе творчыя, а ня змоўніцкахаўрусныя). Адзінае, на што хапіла розуму й спрыту ў некаторых ягоных дзеячоў, дык гэта заснаваць некалькі прыватных камэрцыйных выдавецтваў, якія пачалі спаборнічаць з існуючымі дзяржаўнымі ў справе тыражыраваньня "анжэлік" і "эмануэлей" (зразумела, па-расейску). Аднак, калі дзяржвыдавецтвы вымушаныя лезьці ў маскультуру, ратуючы сваё незайздроснае становішча, дык прыватныя выдавецтвы робяць звычайны бізнэс. Таму да літаратурнага працэсу на Беларусі камэрцыйныя выдавецтвы амаль ня маюць ніякага дачыненьня.

Такім чынам ствараецца ўражаньне, што й сёньня СП Беларусі — калектыў аднадумцаў. Захаваньне маналітнасьці СП падаецца як адзіны шлях, які вядзе да выратаваньня ня толькі беларускае літаратуры, але й нават усяе нацыі. Але ж нішто так не нівелюе творчыя асобы, як калектывісцкі гамуз. У падобных аб'яднаньнях заўсёды дзейнічае залатое правіла — не вытыркайся. Да хлусьлівага (прытворнага) калектывізму трэба яшчэ дадаць правінцыйнае таўро, якое засталося нам у спадчыну ад больш хвалыншага калектыву — "эсэсэсэраўскай" пісьменьніцкай арганізацыі, філіяй якой зьяўляўся СП БССР. Гэтая падначаленасьць замацавала за беларускімі пісьменьнікамі іх больш нізкую рэйтынгава-службовую прыступку.

Дык адбудуцца зьмены ў СП Беларусі? Пытаньне рытарычнае. Зьмены, якія няўхільна набліжаюцца, не залежаць ад чыёйсьці думкі або пазыцыі. Яны непазьбежныя. І ў першую чаргу ў выдавецкай палітыцы. Бо сёньня "Полымя" і "Маладосьць" зьбіраюць пад сваімі вокладкамі усё, што да іх прыб'ецца, або ўладкуецца. Кіраўніцтвы родных выданьняў ніколі не праводзілі цывілізаванай выдавецкай палітыкі, тоўстыя беларускія часопісы ніколі ня мелі свайго акрэсьленага твару. Бо абслугоўвалі ўвесь калектыў (паспрабуй каму зь сяброў СП катэгарычна адмовіць — скаргі пасыпяцца ва ўсе ўстановы, не выключна, шт й у ААН).

Калі структуры СП і здолеюць "прабіць" яшчэ колькі новых літчасопісаў, дык усё адно вельмі хутка яны ператворацца ў дакладныя адбіткі "Полымя"—"Маладосці". У беларускіх пісьменьнікаў хопіць твораў для любой колькасьці выданьняў, абы ганарары плацілі. Ці не тут сакрэт невялікага аўтарытэту нашых літчасопісаў?

Ці будзе надалей існаваць магчымасьць выдаваць тое, што нікому не патрэбна? Якім чынам растлумачыць некаторым сябрам СП, што няма магчымасьці (у першую чаргу фінансавай) выдаваць за дзяржаўны кошт усё, што яны напісалі?

У цывілізаваным грамадзтве чалавек не павінен нагадваць шэрую істоту, хавацца пад покрывам натоўпу. Бо кожны — непаўторны, надзвычайны, адзінкавы экзэмпляр. Таму мастацкія густы й схільнасьці ў розных людзей мусяць быць рознымі. Задаволіць гэтыя густы зможа толькі значная колькасьць мастацкіх выданьняў, кожнае зь якіх возьме свой адметны накірунак — рафінавана-эстэцкі, інтэлектуальны, мадэрновы, канцэптуальны і г.д. Ці зможа сёньняшні СП Беларусі ўсталяваць гэткі стракаты перыядычны літаратурны друк (нават калі будуць вырашаны фінансавыя пытаньні)? Калі не, дык хто зможа? А было ж некалі, было: "Узвышша", "Маладняк", "Полымя"...

Кастрычнік, 1992 г.

# З Ь М Е С Т



---


В ы д а ў ц а: Алесь Аркуш

Р э д а к т а р: Вінцэсь Мудроў

М а с т а к: Наталя Анцімонава

Выданьне Таварыства Вольных Літаратараў

Выдавецкая суполка "Полацкае ляда"

Наклад 300 паасобнікаў

Выданьні Таварыства Вольных Літаратараў можна набыць або замовіць:

**Полацак:** Музэй беларускага кнігадрукавання (вул. Леніна, 22), галерэя «Рыса» (вул. Школьная, 1, тэл. 4-14-96).

**Наваполацак:** крама «Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145, тэл. 2-26-38).

**Менск:** «Кнігарня пісьменьніка» (вул. Казлова, 2, тэл. 33-93-41), шапік ТБМ (пр-т Ф. Скарыны, насупраць ГУМу), шапік у холе філфака БДУ (вул. К. Маркса), штаб-кватэра БНФ (вул. Варвашэні, 8).

**Горадня:** шапік МП «Васілек» (вул. Э. Ажэшкі, насупраць ГрДУ).

**Віцебск:** крама «Купальле» (вул. Гогаля, 14), галерэя «У Пушкіна» (вул. Узгор'е (Суворава), 2).

---

«Ксэракс беларускі» № 4 выдадзены з дапамогаю Полацкага Дзяржаўнага Унівэрсытэта.

ПП «Спадчына Ф. Скарыны», г. Полацк.
Зак. 1654. 18.X.94. Тыр. 300.

